# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1259) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 13 КРАСАВІКА 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.




*Гектар травы дае больш актыўных кармавых адзінак, чым гектар аўса.*

## ВЯСНА-80

Ужо вясна. Першая вясна пасля VIII З'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Для нашых сялян настаў час ажыццяўлення з'ездаўскіх пастаноў.

**„Галоўнай задачай сельскай гаспадаркі, — чытаем у гэтых пастановах, — а таксама ўсіх іншых галін нашай гаспадаркі, якія супрацоўнічаюць з вёскай, становіцца шматзначнае павышэнне ўласных краёвых запасаў кармоў, ад якіх залежыць далейшае развіццё жывёлагадоўлі...“**

I крыху далей:

**„Трэба выкарыстаць усе магчымасці павелічэння жывёлагадоўлі, перш за ўсё шляхам павышэння прадуктыўнасці і далейшага колькаснага прыросту кароў, свіней і авечак, базіруючыся галоўным чынам на развіцці прадукцыі ўласных кармоў“.**

Значыць, перш за ўсё ўласны корм. Гэтага ад сялян патрабуе партыя, гэта неабходна з пункту гледжання іх уласных патрэб. Не таму, што так захацелася камусьці ў дзяржаўным кіраўніцтве. А таму, што **гэта ключ для развязкі такой важнай праблемы ў жыцці народа, як забеспячэнне яго мясам і іншымі харчамі.** Наша краіна можа і павінна сама сябе пракарміць. Задорага каштаваў нам і каштуе імпарт збожжа і кармоў. **На працягу мінулага дзесяцігоддзя дзяржава прызначыла на гэта**

ЗА 8 МІЛЬЯРДАЎ ДОЛАРАЎ

**амаль 8 мільярдаў долараў.** Вось за што нам трэба змагацца! Трэба нам змагацца за тое, каб да неабходнага мінімума абмежаваць гэтыя выдаткі, бо цэны на міжнародных рынках на прадуктовыя тавары безупынку растуць.

Якія канкрэтныя задачы вынікаюць з гэтага для нашых сялян?

Што яны перш за ўсё маюць зрабіць ужо зараз у сваёй гаспадарцы, каб павысіць ураджай?

З гэтымі пытаннямі звярнуўся я да сельскагаспадарчай адміністрацыі Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку. Інжынер **Баляслава Флёрчыкоўская** таксама адзначае, што **найважнейшай задачай нашых сялян з'яўляецца прадукцыя кармоў.**

— Дзеля гэтага, — гаворыць яна, — мы прыстасавалі структуру асенніх і вясенніх пасеваў. Як маглі, так заахвочвалі сялян, каб яны як мага найбольш поля адвялі пад збожжа. Удалося нам дабіцца таго, што пад збожжавымі культурамі знаходзіцца зараз у Беластоцкім ваяводстве ад 62 да 63 працэнтаў агульнай пасяўной плошчы.

— Ці гэта ўжо крайняя, аптымістычная мяжа нашых магчымасцей? — пытаю яе.

— Так. Гэта максімальная плошча, якую сяляне могуць у нас прызнаць на вырошчванне збожжавых, бо нельга забываць нам, што вельмі важным кампанентам кармоў з'яўляецца ў нас буль-

(Працяг на стар. 4)

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Вароніч

Да гэтага матачніка лясной красы і фальклору ўсяго рукой падаць. Перад Копнай Гаproperе (у 26 кіламетрах па шашы з Беластока ў Крынкі) паварочваеце налева і ў якім кіламетры ці паўтара перад вамі гэтая ні то маленькая вёсачка, ні то хутарок. Які быў яго пачатак — сёння згадаць цяжка, затое з дакументаў вядома, што ў палове XVI стагоддзя Крынкаўская пушча дзялілася на 21 „оступаў“ і адзін з іх называўся Вароніч. Ужо тады, магчыма, тут былі пасаджаны „гаеўнік“ на двух валоках „сырога кораню“, бо і цяпер у Варонічы лічыцца 2 „участкі“ (36 дзесяцін) зямлі. З тутэйшай „радаслоўнай“ відаць, што цэлыя стагоддзі зямля гэтая была непадзельная, а ў другой палове XIX стагоддзя яна належала да маёнтку Слойка. Толькі пасля рэформы 1861 г. перайшла ва ўладанне нейкага Мацея Руткоўскага. Ён першы падзяліў яе паміж сынам і зяцем Вільчынскім. I так, „фамілійнае“ дрэва не надта разгалінаванае, але яно моцна зраслося з навакольным лесам і яшчэ больш трывала — з рэчкамі.



*Вінцэнт Вільчынскі ў Варонічы любіць успомніць колішняе.*

Тут злучаюцца два лясныя ручаі Ланка з Вароняй у рэчку Варанічанку, што кіламетрам далей упадае ў Сакалду. У месцы, дзе плынь Варанічанкі прабіваецца паміж двума пагоркамі, здаўна была моцная грэбля, якая затрымоўвала ваду ў абшырным Возеры. Гэтай энергіяй калісьці карысталіся рудня і гамэрня. Балотную руду здабывалі ў даліне Сакалды і яе прытокаў, таксама „нешта капалі“ ў горцы Здрае, а вугаль выпальвалі ў навакольных лясах. Побач стаяў вадзяны млын, меў ён камяні, пастаўленыя „на шторц“ і таму, быццам, выходзіла з-пад іх не „спаленая“ белая разоўка і сітная. Пры млыне працаваў, праўдападобна, фолюш. Словам, быў тут своеасаблівы прамысловы цэнтр. Легенда кажа, што рабочыя збунтаваліся супраць мізэрнай платы за цяжкую працу і ўсё „падчыстую“ спалілі. На месцы рудні і гамэрні яшчэ

(Працяг на стар. 4)

## ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ

Мы звярнуліся да начальнікаў гарадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

**— Што вы лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?**

Сёння адказваюць:

**ВАСІЛЬ МІХНОЎСКІ, начальнік Кляшчэлеўскай гміны:**

— Мы на 253 га зменшылі арэал дзяржаўнага фонду зямлі. Сяляне купілі 61 гектар (дагэтуль не было ахвотных купіць зямлю). Асталося ўсяго 620 га. Сёлета сяляне намераны купіць 38 га. План продажу зямлі індывідуальным гаспадарам будзе выкананы. СКР возьме 28 га.

Другая справа гэта выкананне шматлікіх каштоўных грамадскіх пачынаў. Пабудавалі 1 кіламетр асфальтаванай дарогі з Кляшчэляў у напрамку чыгуначнага вакзала. У грамадскім пачыне (тут канцэнтраваўся партыйны пачын) выкапалі равы, нівеліравалі пясок і жвір на абочынах дарогі.

У Сухавольцах жыхары гэтай вёскі (тут 84 гаспадаркі) працавалі ў кожную нядзелю пры пракладцы кравэнжнікаў і тратуараў. Пабудавалі 1,5 км тратуараў паабапал вясковай асфальтаванай вуліцы. Вартасць грамадскага пачыну акрэсліваецца сумай 800 тысяч злотых. У бягучым годзе пракладку тратуараў закончаць. Тратуары пракладуць яшчэ да клуба „Рух“, які знаходзіцца на іншай вуліцы.

Жыхары Грузкі, Дашаў і работнікі кляшчэлеўскіх устаноў і прадпрыемстваў пабудавалі паўкіламетра жвіровай дарогі з Грузкі ў напрамку кляшчэлеўска-сямяціцкай шашы. За 1,3 млн. злотых. Сёлета пабудову яе закончаць.

Адрамантавалі дарогі ў Палічнай, Жуках, Косьнай, Дашах, Саках, Сухавольцах і Дабрывадзе.

У мінулым годзе ў рамках так званых „зялёных нядзеляў“ пасадзілі 50 гектараў лесу, у тым ліку ў грамадскім пачыне 10 га. Апрача таго, пры новапабудаваных дарогах і вуліцах пасадзілі чатыры тысячы дрэўцаў.

Грамадскі пачын на суму 97 тысяч злотых пры рамонце стражацкіх рамізаў, супрацьпажарных басейнаў і мясцовых дарог выканалі пажарнікі. Асабліва добра працавалі пажарнікі ў Тапарках. Работнікі ПОМу выканалі пачын на суму 143 тысячы злотых (яны рамантавалі трактары і парадкавалі ПОМаўскі падворак), работнікі ГС выканалі грамадскія пачыны на суму 308 тысяч злотых і работнікі СКР — на суму 75 тысяч злотых.

**Мгр УЛАДЗІСЛАЎ СОКУЛ, начальнік горада і гміны Дуброва Беласточкая:**

— Арганізавалі мы пяць сельскагаспадарчых прадукцыйных спулдзельняў (РСП) у Стоцку, Альшы, Лазовым, Кіраеўшчыне і Грабаве. Гаспадарань яны на 511 гектарах. РСП у Стоцку гадуе свіней. РСП у Кіраеўшчыне і Альшы заняліся гадоўляй бydла. Спулдзельня ў Кіраеўшчыне гадуе 130 штук быдла і ў бягучым годзе колькасць яго павялічыць да 330 штук. Рэшта РСП занялася раслінаводствам. Зараз у іх карыстанні 16 трактароў і камплектаў падвесных сельскагаспадарчых машын.

У гміне існуе 130 спецыялістычных гаспадарак. Найбольш накіравала свае гаспадаркі ў напрамку гадоўлі малочнага быдла — 70 гаспадарак, гадоўлі свіней — 17 і вырошчвання пасадачнай бульбы — 14.

У 1979 годзе гаспадаркі, вядучыя гадоўлю малочных кароў, прадалі дзяржаве 937 тысяч літраў малака, г.зн. 10% усяго малака, прададзенага ў гміне. Спецыялістычныя гаспадаркі прадалі на пунктах скупкі сельскагаспадарчых прадуктаў на суму 199-245 тысяч злотых кожная.

У Саколцы аддалі ў карыстанне 150 жылых кватэр, 1,5 км водаправоднай сеткі, 2 км каналізацыі, 1,3 км асфальтаванага палатна, артэзіянскую студню і распачалі пабудову ясляў на 75 месц (сёлета закончаць іх пабудову). Водаправодную і каналізацыйную сеткі будавалі ў грамадскім пачыне. Водаправоды пачалі будаваць жыхары Стоцка, Ружанастока і Градзішчанаў.

Падрыхтаваў **Я. Целушэцкі**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### АД ВЁСКІ ДА ВЁСКІ

Адкрыўся рэгулярны рух па 70-кіламетроваму ўчастку аўтамабільнай дарогі, што вядзе з Гродна ў Мінск. Цераз водныя перашкоды перакінута дзевяць мастоў, пяцьдзесят трубаправодаў. Абсталяваны аўтамабільныя прыпынкі, стаянкі для аўтамабіляў, бар'ерныя агароджы.

Усяго на Гродзеншчыне з пачатку пяцігодкі пабудавана каля 350 кіламетраў дарог з цвёрдым пакрыццём. Яны пракладзены да цэнтраў сельскіх Саветаў, калгасаў і саўгасаў, а ў шэрагу гаспадарак — да жывёлагадоўчых ферм, машынных двароў, аддаленых вёсак. У бліжэйшыя гады добрыя дарогі намечана падвесці да ўсіх перспектыўных населеных пунктаў.

### КАЛЯНДАР

**215 гадоў назад**

15.4.1765 пам. М. Ламаносаў, рускі вучоны-энцыклапедыст, паэт, заснавальнік рускай літаратурнай мовы.

**190 гадоў назад**

17.4.1790 пам. В. Франклін, амерыканскі вучоны, палітычны дзеяч і дыпламат.

**60 гадоў назад**

14.4.1920 нар. у Страшаве (Гарадоцкая гміна) А. Карпюк, беларускі савецкі пісьменнік.

15.4.1920 нар. М. Ракітны (Новікаў), беларускі савецкі пісьменнік.

**50 гадоў назад**

14.4.1930 пам. У. Маякоўскі, рускі савецкі паэт, адзін з пачынальнікаў савецкай літаратуры.

**25 гадоў назад**

18.4.1955 пам. Э. Эйнштэйн, нямецкі і амерыканскі фізік-тэарэтык, стваральнік тэорыі адноснасці.

* * * * * * * * *

14 IV 1910 г. „Наша ніва“ пісала:

Не так яшчэ даўно вядомы чорнасоценны „Крестьянин“ з хэўрай сваёй таргаваў на Кіеўскім з'ездзе душой і целам беларусоў і адначасна ў жывыя вочы даводзіў ім, што ні іх самых, ні мовы іхняй няма і не было на свеце! Само жыццё пасмяялася над хэўрай ворагаў беларушчыны: тыя самыя людзі пайшлі вось на якую штуку. 28 сакавіка таварыства „Крестьянин“ устроіла ў Вільні „Беларускі вечар“, на каторым ігралі па-беларуску п'есу з сялянскага жыцця „Ня розумам поняв, а сердцем“.

П'еса напісана не зусім добра, але на сцэне, дзякуючы добраму рэжысёру, выйшла нішто, а асабліва IV з'ява, у каторай пялі дзве беларускія народныя песні. Пасля п'есы былі жывыя абразы і дэкламацыя. Дэкламавалі два вершы з „Беларускай дудкі“ Максіма Бурачка; гэтыя два вершы былі пакрасай вечару, публіцы яны надта спадабаліся. Адным словам, вечар выйшаў нішто.

Мы ўжо пісалі, якую вялікую вагу для адраджэння народу мае тэатр у яго роднай мове, жывое слова яго, яго песня. І мы вельмі цешымся, што ворагі беларушчыны, хаця толькі дзеля заробку, усё ж такі самі прылажылі руку да развіцця беларускага тэатру.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 616. Nakład 7.700 I-2



*Галоўны рэдактар „Голаса Радзімы“ Вацлаў Генрыхавіч Мацкевіч.*
*Фота С. Крыцкага.*

## МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# Акенца на Беларусь

У рэдакцыі мінскага тыднёвіка „Голас Радзімы“ мяне прывіталі з адкрытымі абдымкамі, як толькі могуць сустрэць самыя блізкія родзічы. Сяброўскі прыём настройваў да... успамінаў. Так! З Вацлавам Мацкевічам — галоўным рэдактарам, Дзіянай Чаркасавай — сакратаром рэдакцыі і Мікалаем Васілеўскім — публіцыстам „Голасу Радзімы“ мы разам канчалі Беларускі дзяржаўны універсітэт. Праўда, было гэта даўнавата, больш за 20 гадоў назад, але той час для ўсіх нас застаўся незабыўны. Майму вяртанню ў маладосць я намерваюся прысвяціць спецыяльны адрэзак „Мінскіх сустрэч“.

У часе адной з сяброўскіх размоваў з В. Мацкевічам і ўзяў я ў яго гэтае інтэрв'ю:

— Калі была заснавана і каму адрасуецца „Голас Радзімы“?

— Наша газета пачала выходзіць у 1955 годзе. Тады рос і пашыраўся рух за вяртанне на Радзіму нашых суайчыннікаў. Недзе каля 1953 г. паўстаў Усесаюзны камітэт за вяртанне на Радзіму, а ў 1955 г. яго Беларуская секцыя. Яна і пачала выдаваць газету „За вяртанне на Радзіму“. Газета дапамагала сем'ям, якія раскінула вайна па ўсім свеце, адшукацца і ўз'яднацца, змяшчала многа лістоў, фатаграфій. Потым стала вядома, што не ўсе беларусы могуць вярнуцца на Радзіму, бо там, дзе жывуць, маюць свае сем'і, знаёмых, абжыты куточак. Напрыклад, члены Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі — гэта быўшыя вывезеныя немцамі на прымусовую работу дзяўчаты, яны там павыходзілі замуж, абжыліся. І як ім вярнуцца ў Беларусь? Апрача ваеннай эміграцыі была яшчэ эканамічная ў гадах 1905-1912, пасля з былой Заходняй Беларусі ў гадах 1922-1939. Гэтыя людзі пакідалі родны кут у пошуках кавалка хлеба, загона зямлі ці ад палітычных праследаванняў, ехалі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, Канаду, Бразілію, Уругвай, Парагвай і іншыя краіны. У суме цяпер у заходніх краінах жыве каля мільёна беларусаў. Таму газета расшырыла сваю дзейнасць на ўсебаковае азнаямленне іх з жыццём у БССР і СССР, наладжванне блізкіх сувязей з родзічамі і наогул з Савецкай Беларуссю, падтрымоўванне прагрэсіўных традыцый, паглыбленне ведаў па роднай гісторыі. І тады нашыя замежныя чытачы запрапанавалі новую назву нашай газеце — „Голас Радзімы“. Так яна пачала называцца ў 1960 годзе. У 1964 г. Беларуская секцыя была ператворана ў Беларускае таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом „Радзіма“, а мы — яго газетай.

— Ці пры гэтым змяніўся характар і напрамак газеты?

— Характар і напрамкі не змяніліся, але мы імкнемся паглыбіць і пашырыць яе змест, павышаць узровень, узбагачаць формы. Ставім мы заданне распаўсюджваць на свеце праўду, аб'ектыўную інфармацыю пра мэты знешняй і ўнутранай палітыкі нашай дзяржавы. Пры гэтым лічым сваім абавязкам выкрываць здрадніцкі характар буржуазнага нацыяналізму, які варожа ставіцца да Савецкай Беларусі і ўсхваляе гэтак званую Беларускую Народную Рэспубліку — той штучны твор нямецкіх акупантаў з 1918 года. Імкнемся выхоўваць у беларусаў на чужыне любасць да свае Айчыны ці Айчыны продкаў. У нашай сацыяльна-эканамічнай інфармацыі пра БССР расказваем пра перамены ў вёсцы і горадзе, як людзі працуюць, жывуць, вучацца, адпачываюць. Амаль палавіну газеты адводзім справам спадчыны і культурных дасягненняў у наш час. Уздымаем пласты нашай даўніны, каб паказаць, што наш край не абдзелены гісторыяй. На беларускай зямлі нарадзіліся вялікія людзі, узводзіліся цудоўныя збудаванні, паўставалі выдатныя творы навукі, розных відаў мастацтва, літаратуры і г.д.

— Якія водгукі маеце ад чытачоў?

— Мноства і вельмі прыемныя, яны нас натхняюць да працы. Лісты прыходзяць перш за ўсё з амерыканскага кантынента — найбольш з ЗША, Канады, Аргенціны. Яны пранікнуты замілаваннем да роднага краю. Я думаю, што такое моцнае пачуццё можа нарадзіцца ў чалавека, які згубіў найкаштоўнейшае — сваю Айчыну — і аніяк не можа яе знайсці. У час сваёй паездкі на амерыканскі кантынент я часта сустракаўся з беларусамі, што ў сваім жыцці дасягнулі многага ў сваім матэрыяльным дастатку, але праўдзівага шчасця яны не знайшлі, не маюць духоўнай раўнавагі. Для іх наша газета — гэта акенца на іхнюю Радзіму, нітачка сувязі з ёю. Беларуская эміграцыя старэйшага пакалення не валодае беларускай літаратурнай мовай, і „Голас Радзімы“ быў для многіх падручнікам і школай роднай мовы.

— „Голас Радзімы“ нам яшчэ вядомы як выдаўца кніжак.

— Стараемся даць нашым чытачам кніжныя выданні на беларускай і англійскай мовах самых цікавых матэрыялаў, якія поўнасцю з-за іх значнага аб'ёму не здолеем апублікаваць у газеце. Кніжачкі з „Бібліятэкі „Голасу Радзімы“ пачалі выходзіць недзе ў 1958 г. Дагэтуль выйшла каля 70 томі-

**(Працяг на стар. 5)**




**З чым да сяўбы? ● Такое яно было жыццё ● На адно пытанне адказваюць гмінныя начальнікі з Гайнаўкі і Чыжоў ● Лісты беларусаў Леніну ● Без дружбы жыць немагчыма ● Наша, матчына мова ● Апека над дашкольнікамі ● Сустрэча з ворагам ● Дзядзька Квас пра пірагі ● Весткі з Бельска, Гайнаўкі, Нараўкі, Орлі, Беластока і Варшавы ● Калі сніцца пахаванне ● Старая прывычка ● Песня „Nie szkoda róż”.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 13 IV** — 6.20 RTSS — sem. II. 6.50 Fizyka sem. II. 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada — Sport dla wszystkich. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek TDC oraz z serii „Dick Turpin” — odc. pt. „Zakładnicy” — film TV ang. 10.20 Antena. 10.45 Zamach — polski film fab. 12.00 Dziennik. 12.15 Rolnicze rozmowy. 12.50 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Tylko w niedzielę c.d. — Kariera Nikodema Dyzmy — odc. II — film TP.

**Poniedziałek 14 IV** — 12.45 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 13.25 Fiz. sem. IV. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Naucz. począt. kl. III. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.25 Studio Młodych. 17.45 Ucieczka z krainy złota — cz. IV — film przyg. czech. 18.45 5 minut z piosenką. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Al Morgan — Wielki człowiek. 22.05 Świat i Polska. 22.50 Dziennik.

**Wtorek 15 IV** — 6.00 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 6.30 Fiz. sem. IV. 11.05 Dla szkół — Czerwone, żółte, ziel. kl. I—III. 12.00 Chem. kl. VIII. 12.55 J. pol. kl. I lic. 13.25 TTR i RTSS — Mat. sem. II. 14.00 Chem. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 16.50 Studio Młodych. 17.10 Sonda. 17.35 Interstudio. 18.00 Tak bardzo bali się legendy o nim. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skojarzenia — teleturn. 19.30 Dziennik. 20.10 Młode lwy — ameryk. film fab. 22.55 Dziennik. 23.10 Camerata.

**Środa 16 IV** — 6.00 TTR i RTSS — Mat. sem. II. 6.30 Chem. sem. II. 11.05 Dla szkół — Chem. kl. VII. 12.00 Wych. plast. kl. VII—VIII. 13.25 TTR — Mech. roln. sem. IV. 14.30 W drodze do nowego. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Mat. kl. V. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Los. Małego i Express Lot. 17.35 Skarbiec. 18.00 Studio Młodych. 18.20 Kijowski Music-Hall. 18.50 Dobranoc. 19.00 Ofensywa kwietniowa — wojsk. pr. hist. 19.30 Dziennik. 20.10 Motyw wyboru — radz. film fab. 21.50 Mecz piłkarski NRD — Grecja. 22.40 Dziennik. 22.50 30 minut z architekturą.

**Czwartek 17 IV** — 6.00 TTR i RTSS — Wskaz. met. 6.30 Mech. rol. sem. IV. 11.05 Dla szkół — J. pol. kl. VIII. 12.00 Nauka o czł. kl. VIII. 12.55 J. pol. kl. I—IV lic. 13.25 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Turniej zastępowych. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC oraz z serii „Złoto Huntera” odc. pt. „Poszukiwany Gordon Hunter”. 17.20 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.45 Studio Młodych. 18.10 Poligon. 18.35 Radzimy rolnikom. 18.45 5 minut z piosenką. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi — Rzecz o zdrowej skórze. 19.05 Exlibris. 19.30 Dziennik. 20.10 Brygady Tygrysa — fr. film tel. 21.10 Pegaz. 21.55 Śpiewa M. Magomajew. 22.45 Dziennik.

**Piątek 18 IV** — 6.00 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 6.30 Mech. rol. sem. II. 11.05 Pr. dla najmł. kl. I—II. 12.00 Geog. kl. V. 12.45 TTR — Hod. zwierz. sem. IV. 13.25 Upr. rośl. sem. IV. 15.05 Red. szkol. zap. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 1' Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.15 Magazyn motor. 17.35 Studio Młodych. 18.00 Czterdziestolatek — film TP — odc. pt. „Cudze nieszczęście czyli świadek obrony”. 18.45 5 minut z piosenką. 18.50 Dobranoc. 19.00 Ałła Pugaczowa. 19.30 Dziennik. 20.10 Nasi goście. 20.55 Magazyn Studia Gama. 22.45 Dziennik. 22.55 Iwan Wasiliewicz zmienia zawód — radz. film fab.

**Sobota 19 IV** — 6.00 TTR — Hod. zwierz. sem. IV. 6.30 Upr. rośl. sem. IV. 7.00 Hist. sem. IV. 7.30 Biol. sem. II. 8.55 Program dnia. 9.00 Poranek z kulturą. 10.30 Czysta chirurgia — film TP. 11.25 Gwiazdozbiór — Wasilij Szukszyn. 12.10 Studio — 2. 18.50 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Pogoda dla bogaczy — odc. III.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 11 IV** — 8.35 Film fab., ser. 14.05 Film fab. 18.55 Film fab. ser.

**Sobota 12 IV** — 8.35 Film fab., ser. 11.10 Film fab. 13.45 Nie do wiary. 18.20 Film fab. 21.35 Koncert.

**Niedziela 13.IV** — 10.30 Film anim. 13.00 Film fab. ser. 15.00 Klub podróży. 17.00 Panorama międzynar. 17.45 Film anim. 18.00 Spektakl. 20.35 Wieczór I. Kozłowskiego.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Lęk wysokości — USA 15—16. Konwój — USA 17—18. Prorok, złoto i siedmiogrodzianie — rum. 19—20.
**Bielsk Podl.** Wciąż o miłości — fr. 14—15. Zwolnienie warunkowe — USA 16—18. Porażenie prądem — węg. 19—20.
**Czyże** Skradziona kolekcja — pol. Szczęście jest tak blisko — rum. 16—20.
**Gródek** Panny z Wilka — pol. 19—20.
**Hajnówka** Jesienna sonata — szwedz. 14—16. Rywalka — fr. 17—18. Umarli rzucają cień — pol. 19—20.
**Michałowo** Komisarz w spódnicy — fr. 15—16. Sędzia Fayard zwany szeryfem — fr. 17—18. Pogrzeb świerszcza — pol. 19—20.
**Mielnik** Alicja ucieka po raz ostatni — fr. 16. Doktor Mladen — jug. 19—20.
**Milejczyce** Znaków szczególnych brak — pol. Colargol i cudowna walizka — pol. 16—20.
**Narew** Śmiertelny pościg — fr. Ciepło — bułg. 16—20.
**Narewka** W cieniu legendy — węg. Amator — pol. 16—20.
**Nurzec** Podróż — wł. 15—16. Droga daleka przed nami — pol. 17—18. Kieszonkowiec — fr. 19—20.
**Orla** Na cichej stacyjce — węg. Zabójstwo chińskiego maklera — USA 16—20.
**Rajsk** Mistrz kierownicy ucieka — USA. Stawiam na trzynastkę — czes. 16—20.

## ПЫТАННІ ПА МОВЕ НА ЭКЗАМЕН ДЛЯ КАНДЫДАТАЎ НА БЕЛАРУСКУЮ ФІЛАЛОГІЮ

1. Назавіце важнейшыя рысы бел. мовы, якія адрозніваюць яе ад польскай мовы.

2. Назавіце важнейшыя рысы бел. мовы, якія адрозніваюць яе ад рускай мовы.

3. Пакажыце на прыкладах, чым адрозніваецца вядомая вам гаворка ад бел. літаратурнай мовы.

4. Што такое дзеканне і цеканне. Выясніце на прыкладах.

5. Што такое аканне. Выясніце на прыкладах.

6. Якія зычныя могуць падаўжацца.

7. Дайце прыклады на падаўжэнне і падваенне зычных.

8 Прыстаўныя зычныя ў бел. мове.

9. Прыстаўныя галосныя ў бел. мове.

10. Правілы пераходу *у, л, в* у *ў* (нескладовае).

11. На якія групы падзяляюцца ніжэй дадзеныя словы з пункту гледжання іх словаўтварэння: *газетчык, дабрабыт, данесці, зазімак.*

12. Падай і прааналізуй прыклады слоў, якія словаўтваральна падзяляюцца, і слоў, якія словаўтваральна не падзяляюцца.

13. Якія элементы можам вылучыць у вытворных словах? Для адказа можна выкарыстаць наступныя прыклады: *пясняр, памыць, недаростак, запуск.*

14. Галоўныя спосабы ўтварэння новых слоў у бел. мове.

15. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца прыметнікі? Прааналізуйце з гэтага пункту гледжання наступныя прыклады: *воўчы, вясковы, чарнявы, малавядомы, спачувальны, магчымы.*

16. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца назоўнікі? Зрабіце аналіз слоў: *будзільнік, шырыня, маладосць, настаўніца, загар, палкаводзец.*

17. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца дзеясловы? Прааналізуйце з гэтага пункту гледжання прыклады: *загнаць, кашляць, шаптаць, дваіць, траіць, яснець, сівець.*

18. Што такое корань слова, прыстаўка, суфікс? Выдзяліце гэтыя часткі ў словах: *летні, лётчык, столік, даехаць, перапіска.*

19. Прааналізуйце спосабы ўтварэння ступеняў параўнання прыметнікаў і прыслоўяў.

20. Закласіфікуйце да адпаведных часцін мовы словы ніжэй дадзеных сказаў: *На неба цёмнае з усіх старон цягліся хмары і гасілі зоркі. Ціхім жалем веяла ад аднатонных малюнкаў палескіх куткоў, дзе ўсё ж такі жыццё стварала своеасаблівыя формы.*

21. Да якой часціны мовы належыць слова „непадалёку" ў наступных сказах: *Непадалёку хвалявалася, шумела жаўтаватае жыта. Біркова хата стаяла непадалёку мяне. на ўзмежку.*

22. Якія канчаткі ўжываюцца ў месным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду? Ад чаго залежыць выбар адпаведнага канчатка?

23. Якія канчаткі ўжываюцца ў родным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду? Ад чаго залежыць выбар адпаведнага канчатка?

24. Якія дзеясловы належаць да першага, а якія да другога спражэння? Дайце прыклады і ўтварыце ад іх загадны лад і дзеепрыметнікі.

25. Ад дзеясловаў *гаварыць, ехаць* утварыце ўсе магчымыя формы.

26. Зрабіце сінтаксічны аналіз простага сказа: *Пасля абеду, Андрэй, пойдзеш са мною.*

27. Зрабіце сінтаксічны аналіз складаназлучанага сказа: *Па правай руцэ цягнуўся ельнік уперамешку з маладымі хвоямі, а з левага боку пачынаўся бярэзнік.*

28. Зрабіце сінтаксічны аналіз складаназалежнага сказа: *Між дзвярыма і другою сцяною прытулілася шафа са шклянымі ўверсе дзверцамі, за якімі сталі кнігі роўненькімі радочкамі.*

29. Падайце прыклады дзеяслоўнага і іменнага выказніка.

30. У дадзеных ніжэй сказах выдзяліце дзейнікі і скажыце, якімі часцінамі мовы яны выражаны: *Моладзь таўпілася перад газетай, жартавала з трапных карыкатур. Нехта цёмным ценем падышоў да акна. Старыя і тыя не адставалі ад маладых. Абодва былі ўдаўцы. Мы з табою маўчым і на зоркі глядзім. Шэсць коней стаіць на прывязі каля сцяны. Кравец і каваль гралі на скрыпках, хлопцы і дзяўчаты танцавалі.*

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

### Слёзы

Дарагая „Ніва"! Рашыла я напісаць табе і прасіць тваёй дапамогі. Чытаю цябе і бачу, як многа ты памагаеш людзям сваімі парадамі. І думаю, што паможаш і мне ў маім клопаце, які мне вельмі баліць, як і многім іншым жанчынам, мужы якіх працуюць у ПКСе. З гэтага прадпрыемства многія сем'і пацярпелі, а цяпер прыйшла ўжо чарга на мяне. А справа ў тым, што нашых мужоў фірма высылае на доўгія трасы ў адлеглыя мясцовасці, дзе яны начуюць. Бывае, што едуць яны на начлегі з жанчынай-кандуктарам. Сябруюць, а потым, калі з'явяцца ў родны дом, няма нам — сямейнікам ужо месца, бо ён, муж, ужо думае толькі аб сваёй прыгодзе. Я разумею, што гэта праца. За працу плацяць грошы, але не разумею, чаму нельга нанач высылаць мужчыну з мужчынам, а толькі з жанчынай? Ці гэтыя жанчыны не маглі б ездзіць на дзённых трасах? Гэтыя жанчыны ўжо прывыклі так адносіцца да шафёраў. І так вось праз адну з іх і я страчу мужа. Я ўжо не маладая. Можа ты, „Ніва", падумаеш, што я зайздросная. Ужо не, але мне баліць сэрца, калі падумаю, што праз неразумныя ўчынкі прадпрыемства я застануся з дзецьмі адна. Дарагая „Ніва", прашу цябе горкімі слязамі, памажы ў гэтым што-небудзь! Мы, жанчыны, будзем табе вельмі ўдзячны. Сваёй дапамогай ты збавіш многа сем'яў, у якіх будуць шчаслівыя дзеці.

**Надзя**

### „ЧАРАЎНІЦА"

Дарагая Рэдакцыя! Рэдагаваны вамі наш тыднёвік „Ніва" я чытаю ўжо доўга. Мне ён вельмі падабаецца. Жыву я ў вёсцы і хацела б вам апісаць гісторыю, якая здарылася ў нашай вёсцы. А вось яна.

Жыве ў вёсцы жанчына, якой больш 50 гадоў. Аднойчы гэтая жанчына спякла хлеб і адрэзала некалькі кускоў, каб занесці суседцы — пачаставаць яе. У суседкі ў гэты дзень была ўнучка з нарачоным. Праз некалькі гадзін (удава пайшла ўжо дахаты), суседка, унучка і нарачоны, з'еўшы гэты хлеб з чымсьці, захварэлі і апынуліся ў бальніцы, дзе прабылі некалькі дзён.

Пасля гэтага здарэння некаторыя жанчыны аб'явілі, што гэты хлеб быў зачараваны, і ўдаву назвалі чараўніцай. Цяпер гэтая жанчына моцна церпіць і перажывае несправядлівую мянушку.

Я думаю, што ўжо канчаецца XX век, а яшчэ знаходзяцца такія адсталыя людзі, што маюць погляды з сярэдневякоўя, у якім аж роілася ад чараўніц. Цяжка сабе ўявіць, што гэтак могуць гаварыць людзі, у якіх у хатах і на палях ёсць машыны, якія ім памагаюць у працы. А можа гэта таксама творы чараўніц?

**К-А.**

*А. Пупко, Іванец. „Прэч вайну!" (разьба па дрэву).*

## Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LVIII

У адной з характэрных для нацыянальнай праблемы навел „Жывая вада" Колас задумоўваецца над мінулым, сучасным і будучым айчыны. Пытанне гэтае вырашае пісьменнік згодна з рамантычным прынцыпам: захапляецца мінулым, асуджае сучаснае, верыць у будучае. У некаторых эпізодах алегарычных навел Колас адступае ад сімволікі і тады карыстаецца непасрэдным рэалістычным значэннем слоў. Зразумела, што такія фрагменты маюць выразна акрэслены ідэйны характар. Вось прыклад з навелы „Ноч, калі папараць цвіце": „І чамусьці гэтая старонка лічылася заняпалаю. І слава ўжо такая злажылася аб ёй, аб яе прыродзе, аб людзях яе. А людзі тут розныя былі. Адны тут жылі спрадвеку, тут нарадзіліся і тут паміралі. Так і называліся яны — „Тутэйшыя людзі". А другія часта няпрошаныя заходзілі. Але яны казалі, што прыйшлі, каб прынесці дабро тутэйшым людзям. Але, як вядома, казаць можна адно, а рабіць зусім іншае."

Несумненна, найбольш характэрным творам для нацыянальнай праблемы была навела, якая ў розныя перыяды друкавалася пад двума загалоўкамі: „Тры браты" або „Дудар". Аб гэтым творы Пшыркоў напісаў наступнае: „Рэвалюцыйна-дэмакратычныя беларускія пісьменнікі выступалі за яднанне і дружбу народаў Расіі, звалі беларусаў дапамагаць суседнім братнім народам у вялікай вызваленчай барацьбе. Ідэя братэрства рускіх і украінцаў легла ў аснову алегарычнага апавядання Коласа „Дудар".

Сам Колас у лісце да рускага гісторыка літаратуры Клейнборта крыху падругому ахарактарызаваў уласны твор: „Моя сказка „Тры браты", печатаная в № 4 „Нашай Долі", явилась ответом тем лицам, которые в спорах со мною доказывали, что белорусского языка нет..."

Выступаючыя ў навеле тры браты сімвалізуюць тры народы. Наймалодшы брат гэта, несумненна, беларус. Вось найбольш характэрныя вытрымкі з гэтага выключна важнага і характэрнага твора:

„Тром родным братом Бог даў аднакі розум, аднакія мыслі і думкі. Толькі не аднакая доля спаткала кожнага брата ў жыцці. Хоць усім братам не вельмі салодка жылося, але меншаму брату выпала самая горкая доля. Прысудзіла яна яму самы горшы куток, кінула сярод махоў і балот. Кепска жылося меншаму брату.

...Прайшло многа часу. Усе тры браты сустрэліся. Старшы брат пазіраў смела. Ён быў у ботах, крамных портках і кашулі, а наверх кашулі камізэлька. Гаварыў Першы брат скора. Мова яго была адменная і меншы брат ледзьве мог разабраць яго.

...Меншы брат маўчаў, яму не давалі гаварыць тэй мовай, каторай гаварыў ён сам з сабой, з сваімі думкамі, з лесам. З яго мовы смяяліся іншыя браты.

... — Гавары ты так, як гавару я, — кажа старшы брат, — і не страшы ты мову людскую. Твая мова — немая мова.

... — Лепшай мовы я не чуў. Гавару як знаю! Брат! Хто доўга маўчаў, таму хочацца многа гаварыць. А я маўчаў усё жыццё і мне хочацца гаварыць: не адбірай ты ад мяне хоць гэтага права.

...Не смейцеся, браты, і не адбірайце ў мяне таго, што можа адабраць толькі Бог".

### З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ХАЎТУРНАЯ АБРАДНАСЦЬ.

## ПАМІРАННЕ

Хворы, прадчуваючы свой канец, папрасіў свяшчэнніка. Час на апошні зямны разлік са сваіх грахоў, апошняе ачышчэнне душы перад апушчэннем гэтага свету. І споведзь — гэта самы істотны момант у працэсе паміраня. Згодна з перакананнем людзей, надта ж цяжка душы таго чалавека, да якога не паспелі зажыва прывесці свяшчэнніка.

— Вона нэ можэ тогды на тамтуом свіэті знайті собіэ міестя і часто ворочаецця до жывых і просіт прошчэння. То в сніэ прыдэ, то нормально в дэнь прыдасця. А як нэ вспіэют батюшкі прывэзті, то хоч запаляну грумнічну свіэчку в праву руку даті трэба, — гаворыць інфарматарка з Галадоў.

У пакоі сабраліся блізкія. Прыйшлі развітацца, выслухаць апошнюю волю паміраючага. Стаіць падрыхтаваная грамнічная свечка. Не заўсёды сам працэс паміраня праходзіў лёгка. Даволі часта чалавек доўга мучыўся ў смяротнай агоніі. І якраз спынімся на працэсе доўгага паміраня. А гэта таму, што звязана з ім некалькі цікавых народных спосабаў аблягчэння.

Першая істотная справа, незалежна ад таго, ці смерць лёгкая, ці цяжкая, гэта падаць у рукі запаленую грамнічную свячу. Агонь з'яўляецца сілай ачышчаючай, а адначасова не дапускае да хворага, у нашым выпадку паміраючага, злых моцаў. Прыкладна, у ваколіцы Заблудава лічаць, што агонь грамнічнай свячы з'яўляецца правадніком чалавека ў другі свет, асвятляе яму праход. Гэта так, як бы паміраючы трымаў запаленую свячу і асвятляў сабе дарогу, аж да моманту смерці. Тады свячу гасілі, а запальвалі стаяўшую побач.

Калі чалавек моцна мучыўся і смерць доўга не прыходзіла, паяснялі гэта тым, што быццам бы не ўладзіў ён поўнасцю сваіх зямных спраў. Засталіся нейкія даўгі, нявыбачаныя крыўды, нанесеныя іншым. І гэта не давала яму спакойна памерці. А прычына магла быць і ў тым, што проста ён яшчэ некага чакаў. І народ стараўся рознымі спосабамі скараціць гэтую доўгую смяротную агонію. Адным з іх была просьба да сабраўшыхся агульнага адпушчэння паміраючаму ўсіх крыўд, яго дрэнных учынкаў. І ўсе супольна гаварылі малітву.

Наступнае — адварочвалі паміраючага тварам да сцяны, каб не бачыў людзей і не так шкада было развітвацца. Але адначасова мела гэта значэнне і для тых, якія прысутнічалі пры смерці. Проста, каб не глядзелі яны на змучаны і зменены твар.

Адначасова расшпільвалі на вопратцы паміраючага ўсе гузікі, развязвалі ў хаце ўсе вузлы, што таксама мела аблегчыць і скараціць мукі. Гэтыя споса-

(Працяг на стар. 5)



*На могілках каля вёскі Ячна гм. Дуброва Беластоцкая.*

*Фота М. Гайдука*

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГАЙНАЎСКАЯ АХОВА ЗДАРОЎЯ

Калектыў аховы здароўя (Зэспул Опекі Здровотнэй) у Гайнаўцы разрасся якасна і колькасна. Старэйшыя жыхары Гайнаўкі яшчэ помняць, як іхняя бальніца на 30 чалавек была на вул. 1 Мая, а лекараў было не больш дзесяці чалавек.

Цяпер у Гайнаўцы ў ненайлепшых умовах працуе сем бальнічных аддзяленняў, якія размешчаны ў пяці асобных будынках. Усе месцы круглы год заняты. Найбольшы аддзел — унутраных хвароб — мае 65 месц. У 1979 годзе ў гайнаўскіх бальніцах лячылася 6.363 асобы.

Аж верыць не хочацца, што ў мінулым годзе ў адкрытым лячніцтве Гайнаўкі — у 12 раённых і 15 спецыялістычных парадніх лекары прынялі 316.766 асоб. Каб пераканацца, мала ці многа людзі лечацца ў нас, падзяліў я колькасць візіт на колькасць лекараў Гайнаўшчыны і выйшла, што кожны грамадзянін былога Гайнаўскага павету быў у лекара 5 разоў у год, я быў 12 разоў.

З кожным годам павялічваюцца лекарскія кадры. У мінулым годзе прыбыло нам дзевяць лекараў.

98 працэнтаў лекараў у Гайнаўскім ЗОЗе гэта выпускнікі Беластоцкай медыцынскай акадэміі.

Дзень і ноч на станцыі хуткай дапамогі дыжураць лекарскія групы, якія з дапамогай едуць у адлеглыя мясцовасці. У кожнай гміне ёсць асяродкі здароўя, дзе лекары даюць першую дапамогу хвораму. Апрача гмінных асяродкаў, ёсць у нас 6 вясковых асяродкаў аховы здароўя — у Ласінцы, Ляўкове, Палічнай, Клейніках, Семяноўцы, Новаберазове.

У размове дырэктар ЗОЗу ў Гайнаўцы Вацлаў Бабынка сказаў, што ў апошнія гады вельмі палепшылася дзейнасць службы здароўя. У гэтую справу заангажаваны ўсе лекары. Добра працуюць медсёстры і сацыяльныя працаўнікі ЗОЗу. Дзякуючы ім дырэкцыя добра ведае ўсе патрэбы сваіх пацыентаў.

**Э. Вайсковіч**

## ПРЫЯЦЕЛІ БЕЛАВЕЖЫ

Разам з новым годам аднавіла сваю дзейнасць Таварыства прыяцеляў Белавежы. Наладзіла яно ўжо аж тры мерапрыемствы. Першае — вечарынка, прысвечаная памяці вядомага рэжысёра, сцэнарыста і кіназдымшчыка Уладзіміра Пухальскага (1908—1979), піянера польскага папулярна-навуковага фільма на прыродазнаўчыя тэмы. Дэманстраваліся некаторыя яго фільмы.

Многіх жыхароў Белавежы прыцягнула другое мерапрыемства — конкурс „Колер, пах і смак пушчанскага мёду“. Найлепшага пушчанскага пчаляра выбіралі самі ўдзельнікі сустрэчы. Кожны з іх мог спрабаваць па лыжачцы мёду. У выніку смакавання першае месца прызналі Яну Пашкевічу з Белавежы, другое — супольна Яну Марозу і Мікалаю Карунасу — абодва таксама з Белавежы. Усе пераможцы атрымалі рэчавыя ўзнагароды.

Трэцім мерапрыемствам быў паказ нямецкага каляровага навукова-папулярнага фільма „Галапагас — архіпелаг жывых акамянеласцей“. Архіпелаг гэты складаецца з 13 вулканічных астравоў на Ціхім акіяне, а прыналежных Эквадору. Фільм паказаў іх эндамічную флору і фауну.

Усе мерапрыемствы адбываліся ў памяшканні Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта. Чакаем новых.

**П. Байко**

## ДЗЕ КУПІЦЬ ФРУКТЫ?

Нядаўна ў адну спажывецкую краму ў Нарве ўвялі фрукта-агародніннны аддзел. Гэтых прадуктаў даўно дамагаліся жыхары пасёлка. Цяпер крама добра забяспечана морквай, буракамі, пятрушкай, лімонамі. Не хапае толькі цыбулі, але ўсе ведаем, якія цяжкасці з ёю ў гэтым годзе. Як сцвярджаюць прадаўшчыцы, найбольшай папулярнасцю ў пакупнікоў карыстаюцца яблыкі, а таксама сушаныя фрукты. Менш нараўчане купляюць свежай гародніны. Відаць, нараўскія гаспадыні назапасілі восенню гэтых прадуктаў дастаткова.

**Рута**

## УЛАСНЫ БРЫГАДЗІР

У 1979 годзе бельскі ВСС „Сполэм“ большасць рамонтаў сваіх будынкаў правёў уласнай рамонтнай брыгадай, якая налічвае 20 чалавек. Гэта знізіла уласныя кошты ўтрымання і рамонту крамаў, рэстаранаў, пякарняў і г.д.

Найлепшымі рабочымі ў будаўнічай брыгадзе з'яўляюцца Мікалай Антанюк, Мікалай Каршак, Васіль Будкевіч, Антон Завадскі, Мікалай Крыштанюк і Валянцін Лазараў.

**Іван Кірызюк**

## АД СТРАЛЬЦА ДАВІДА

Калі запытаюць у вас, колькі кіламетраў з Давідавіч у Стральцы, скажыце, што гэта тая самая вёска. Па-мясцоваму ж людзі гавораць „Стрыльцыє“.

Старая легенда кажа, што на месцы, дзе стаіць вёска, даўным-даўно жыў паляўнічы (стралец) Давід. І ў гонар яго назвалі асаду, якая стала потым багатай і прыгожай вёскай. Вёска знаходзіцца ў Заблудаўскай гміне пры дарозе з Рыбалаў у Трасцянку, што па гайнаўскай шашы. Славіцца яна агуркамі, трускалкамі і спакойнымі, вясёлымі людзьмі.

**Антолік**

## РЭДКАЕ МАЙСТЭРСТВА



Майстрам, які капае калодзежы, з'яўляецца Уладзімір Хіліманюк з Тафілаўцаў, Дубіцкай гміны. Цяжка палічыць, колькі ў сваім жыцці выкапаў гэты чалавек тых калодзежаў, але многа, многа. Праца гэта цяжкая і небяспечная, таму і мала ёсць ахвотных яе выконваць. Яшчэ добра, калі вада недалёка і капаць трэба не так глыбока. Але вось узяць такія вёскі, як Тапаркі, Сухавольцы, дык там вада так глыбока, што нават страшнавата глядзець у такі калодзеж, люстра вады амаль не відаць. У зямлю ўкапаных тут нейкіх 20, а мо і 30 цэмбравін. Толькі падумаць. А вось такія калодзежы капае Уладзімір Хіліманюк. І заўсёды з калодзежа, выкапанага гэтым чалавекам, выцякае смачная вада. Ён, як кажуць людзі, мае нюх.

Уладзімір Хіліманюк выконвае абавязкі солтыса ў сваёй вёсцы, з'яўляецца грамадскім дзеячом і сакратаром пажарнай аховы ў Тафілаўцах.

**М. Панфілюк**

## СУСТРАКАЕМ ВЯСНУ

Набліжаецца вясна. Пачнецца праца ў полі. У сучаснай механізаванай гаспадарцы надта патрэбны спецыялісты, асабліва трактарысты. Падумалі аб гэтым СКР у Нараўцы і сельскагаспадарчая школа ў Альхоўцы. Яны правялі курс, на якім права кіравання трактарам атрымала звыш 40 чалавек. Яны павялічаць кадры трактарыстаў мясцовага СКР. Некаторыя атрымалі адначасова правы на кіраванне самаходам і матацыклам. Зімовы час не быў патрачаны.

**А. З.**

## БЕЛАВЕЖСКІЯ ЭКСКУРСАВОДЫ НЕ СПЯЦЬ

Не трацяць часу белавежскія экскурсаводы. Увесь асенне-зімова-веснавы перыяд, калі ў Белавежу прыязджае менш экскурсій, прысвячаюць яны перападрыхтоўцы. Кожны другі аўторак па вечарах збіраюцца, каб паслухаць даклады на тэму Белавежскай пушчы, яе ваколіц, аховы прыроды ў Польшчы і заграніцай, запаведнікаў прыроды ці нацыянальных паркаў.

З вялікім зацікаўленнем прынялі экскурсаводы ўведзены ў гэтым годзе агляд усіх важнейшых навуковых і навукова-папулярных публікацый аб Белавежскай пушчы. Навінай перападрыхтоўчага сезону з'яўляюцца таксама экскурсіі ў беластоцкія навуковыя цэнтры, дзе экскурсаводы знаёмяцца з праводзімымі ў іх навуковымі даследаваннямі.

Плануюць наладзіць сустрэчу з др. Я. Ясканісам з Беластока і экскурсію па запаведніках прыроды Беласточчыны пад кіраўніцтвам мгр інж. Кшыштофа Вальфрама. Плануюцца таксама экскурсіі па самай пушчы, а найперш па яе новых запаведніках.

Белавежскі гурток экскурсаводаў налічвае зараз 90 чалавек. У мінулым годзе экскурсаводы вадзілі каля 80 тысяч турыстаў і экскурсантаў. Старшынёй гуртка з'яўляецца дасканалы шматгадовы экскурсавод Вальдэмар Хвыць — ляснічы ў Белавежскім нацыянальным парку.

**П. Байко**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Па дарозе з Гарадка ў Міхалова дзверы кабіны транспартнага самахода адкрыліся. На дарогу ўпаў і адразу забіўся пасажыр, які ехаў разам з шафёрам. У кабіне сядзеў шафёр і тры пасажыры.




Сардэчна дзякуем нашым чытачам з БССР, якія прыслалі нам вельмі цікавыя і патрэбныя кнігі. І так І. Міско прыслаў: „Паэтычны слоўнік“ В. П. Рагойшы, „Фразеалагічны слоўнік“ Н. В. Гаўрош, І. А. Лепешава, Ф. М. Янкоўскага, „Слоўнік фізічных і астранамічных тэрмінаў“ А. І. Болсуна, Я. Н. Рапановіча, „Тлумачальны слоўнік беларускай мовы“ А. Я. Баханькова, І. М. Гайдукевіча, П. П. Шубы і „Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах“, якую склаў М. Р. Гнеўка. Наш чытач піша: „Калі спатрэбіцца каму-небудзь, буду вельмі рады“. Ой, яшчэ як патрэбна!

Наш другі ахвярадаўца Іван Казлоўскі жыве ў пасёлку Вішнявец, Мінскай вобласці. Ён нам піша: „З радасцю ўспрыняў вестку, што магу чымсьці і я дапамагчы вам. Ужо набыў два экземпляры „Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы“, хутка іх атрымаеце. Можа і маеце вы такія, але, як кажуць, запас бяды не чыніць. Гэтыя кнігі адрасуюцца вучням і настаўнікам сярэдняй школы... Набыў і падручнік па беларускай мове для 4 класа. На маю думку і думку многіх настаўнікаў роднай мовы, гэта дасканалыя дапаможнікі... Я спадзяюся, што ў будучым вышлю больш кніг. Справа ў тым, што многія кнігі разыйшліся ўжо (я маю на ўвазе кнігі, выдадзеныя ў мінулым годзе). Выйшла шмат добрых кніг. Я іх маю ва ўласнай бібліятэцы, на жаль, па адным экземпляры. У будучым буду набываць па некалькі экземпляраў і дасылаць вам... Рады паведаміць, што „Ніва“ прыходзіць у тэрмін. Чытаю з вялікай асалодай не адзін я“.

Адзін экземпляр прысланага вамі падручніка па беларускай мове для 4 класа мы затрымалі ў рэдакцыі. Вельмі прыдатны. Адзін выслалі некаму, хто хоча ад пачатку навучыцца беларускай мове. Сардэчнае дзякуй!

**Анатоль Маўчун,** Познань, піша: „Сёння ў мяне іншая праблема. У апошніх мінулагодніх нумарах „Літаратуры і мастацтва“ многа пісалі пра тое, што часта нішчэюць помнікі старыны, і пра тое, што не заўсёды ёсць сродкі на адбудову і забеспячэнне гэтых помнікаў. Я, здаецца, ужо пісаў вам, што ўзначальваю завадскі гурток ТППР. Вось з нагоды 35-годдзя заснавання гэтай арганізацыі хачу, каб наш гурток прызначыў нейкую суму грошай на адбудову помнікаў даўняй беларускай культуры. Не ведаю толькі, як і каму пераслаць нашы грошы. Калі б нам удалося арганізаваць гэта, можна было б зрабіць заклік да іншых гурткоў ТППР, каб пайшлі нашым следам“.

Прапанова гэта ўзрушыла нас, як думаем, узрушыць яна кожнага чытача. Мы рашылі яе апублікаваць, каб людзі ведалі і думалі. Адносна самой прапановы, мы адказваем, што даведаліся ад Ваяводскага кансерватара забыткаў у Беластоку. Вось-вось Ваяводская рада нарадовая зацвердзіць пастанову аб стварэнні ў Беластоцкім ваяводстве Грамадскага камітэта аховы помнікаў (Комітэт сполэчны охроны забыткув). Камітэт будзе мець сваё конта, на якое можна будзе ўплачваць усе дары і ахвяры на рэканструкцыю і ахову помнікаў. Калі ахвярадаўца мае на думцы нейкі канкрэтны помнік ці групу помнікаў, свае пажаданні будзе перасылаць камітэту, які іх возьме пад увагу. Мы падамо ў свой час нумар конта і адрас камітэта.

* ✲ *

Усім, хто віншаваў мяне па прычыне заваявання першага месца сярод карэспандэнтаў „Нівы“ за 1979 год, маё вялікае дзякуй!

**М. Панфілюк**




## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ?

Я лічу, што добра было б, каб гэтая тэма засталася пастаяннай на старонках „Нівы“. Калісьці сацыёлагі будуць мець добры матэрыял для даследаванняў.

П. Байко ахарактарызаваў чатыры прыклады супярэчлівых меркаванняў грамадства. Здаецца, гэта дробязі жыцця. Але ў рэчаіснасці не так яно. З гэтых супярэчлівых дробязей, калі яны датычаць кагосьці з нас, яны ў мяшчанскім асяроддзі вырастаюць да вельмі крыўдных ацэнак. А гэта ўжо нам неабыякава.

Ф. Берніковіч піша аб тым, як пагарджаюць сваім дзеці. Гэта вельмі важная справа. Ад сябе дадам, што хто не хоча ведаць свайго, той не можа ацаніць чужое. Чалавек з чужой душой вельмі небяспечны і зусім непрыдатны для грамадскага жыцця.

„Трэба асцерагацца кар'ерыстаў...“ — піша М. Панфілюк. Гэта праўда. Не адзін з нас на ўласнай шкуры адчуў, што значыць мець дачыненне з кар'ерыстамі. Ён, каб вырабіць сабе марку, гатовы зрабіць найгоршую крыўду другому чалавеку, ачарніць яго, знішчыць яго добрае імя. Кар'ерыст — гэта найгоршы злачынца.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскі**

## ШАФЁР

У 9 нумары „Нівы“ было напісана пра няветлівага шафёра. Праз аднаго няветлівага не варта кепска думаць пра ўсіх. Той самы шафёр, ці той самы пасажыр не заўсёды можа быць аднолькава ветлівым. На некаторых маршрутах ПКСы бываюць вельмі перапоўнены, часта на прыпынках пасажыры вядуць сябе некультурна. Не пільнуюць чаргі, лезуць сілай, не зважаюць на старых, дзяцей і інвалідаў. Найлепшага шафёра і кандуктара да таго знервуюць, што і да парадачных пасажыраў ён будзе няветлівым.

9 сакавіка, напрыклад, пасля вольнай суботы і Дня жанчын у Бандарах у 11.35 гадзін было вельмі многа пасажыраў. Здавалася, што і палавіна іх не ўлезе ў аўтобус. Але пасажыры ўваходзілі па парадку, спакойна. Шафёр спакойна ўсіх узяў. Я думаў, гэтага шафёра варта пахваліць. І чую, пасажыры гавораць: добры шафёр, але, мусіць, больш не возьме ў Юшкавым Грудзе, добра, што нас узяў.

А то ж яшчэ ўзяў пару чалавек на першых прыпынках. Але было цесна і душна. У Міхалове выйшла пару чалавек, столькі ж і ўвайшло. А хацела ўвайсці з паўсотні. Каб ад'ехаць, трэба было зачыніць дзверы, але як? Чалавек стаў на ступенькі і ані туды, ані сюды. Шафёр прасіў па-добраму, каб злез са ступенькі. Калі той не слухаў, вымушаны быў яго сапхнуць. За гэта многія пасажыры лаялі шафёра.

У Беластоку на станцыі ПКС бывае вялікі балаган. Няма каму прымусіць пасажыраў трымацца парадку. А яны самі, відаць, яшчэ не дараслі да гэтага. Можа варта падумаць, каб з двух бакоў зрабіць парэнчы да дзвярэй аўтобуса, так, каб адзін з другім не пхаўся, а ўсе культурна ўваходзілі ў аўтобус.

**Ф. Х.**

## БЕРАЖЫЦЕСЯ КАМІНАРАЎ!

„Беражыцеся цыганак!“ — пісаў М. Панфілюк. А я хачу пашырыць: беражыцеся камінараў!. Аб камінарскіх паслугах і ўсёй той праблеме пісалі ўжо многія. І ўсё без выніку. Значыцца, нічога нельга змяніць у гэтай справе, значыцца, трэба далей плаціць грошы за нявыкананыя паслугі. Хто не заплаціць камінару „месячнай стаўкі“, той будзе пакараны штрафам. А ці ж нельга лупнуць штраф камінару за тое, што ён бярэ грошы за працу, якой не зрабіў і не робіць? І другое пытанне: калі павінны праводзіць камінары агляд сялянскіх сялібаў? Законы нашы пішуцца на тое, каб іх выконваць, а не на тое, каб імі назойліва страшыць людзей, як малое дзіця цыганкай. А мо прымем такую пастанову, што сваіх малышоў будзем страшыць камінарамі і закрываць будзем перад імі дзверы нашых хатаў? Думаю, што камінарская праблема паспела настолькі, што грамадства катэгарычна патрабуе яе вырашэння на вышэйшым узроўні.

**(ус)**

Імпартумар



## КАР'ЕРА

— У мяне для вас прыемная навіна, — сказаў мне шэф. — У суседнім інстытуце адкрылася надрэнная вакансія... Я ўжо закінуў за вас слоўца...

Праз тыдзень, з беззаганнай характарыстыкай — дысцыплінаваны, ініцыятыўны, маральна стойкі, непітушчы і да таго падобнае, — я быў залічаны на больш высокую пасаду.

Мая кар'ера складвалася на дзіва ўдачна. Не паспеў папрацаваць на новым месцы і двух месяцаў, як мяне запрасіў новы шэф.

— Мы да вас прыглядзеліся, — сказаў ён, — і лічым, э-э... што ў нас няма маральнага права затрымліваць вас у сябе, калі ў галоўнай лабараторыі адкрываецца надрэнная вакансія.

І ён назваў прозвішча майго будучага кіраўніка.

— Я ўжо закінуў за вас слоўца, — дадаў шэф.

Праз тыдзень з беззаганнай характарыстыкай — дысцыплінаваны, ініцыятыўны, маральна стойкі, непітушчы і да таго падобнае — я быў залічаны на больш высокую пасаду.

З новым шэфам мы папрацавалі крыху больш месяца.

— Раю вам падаць заяву па ўласным жаданні, — паставіў ён пытанне рабром. — І як вы дагэтуль працавалі?!

— Не горш, — адрубаў я.

— „Не горш!" — з'едліва падхапіў ён. — Штодзённа спазняецеся, лындаеце, не выяўляеце ініцыятывы... Да гэтага ж, я пераканаўся, ваша прыхільнасць да прыгожага полу мяжуе з амаральнасцю... І ўрэшце, вас бачылі ў рабочы час падвыпіўшым.

Я выклаў перад ім копіі характарыстык з папярэдніх месц працы.

— А што скажаце на гэта вы? — з выклікам адказаў я пытаннем на пытанне, намагаючыся, аднак, дыхаць убок. — Гэтым дакументам кожны паверыць. А вы прыдбаеце рэпутацыю зайздросніка і паклёпніка.

Нейкую хвіліну шэф памаўчаў.

— Зусім забыў, я ж хацеў вам яшчэ сёе-тое сказаць, — прымірыцельна пачаў ён. — У нашым галіновым інстытуце ёсць добрая вакансія... Я... закіну за вас слоўца.

„Прынцыпова, смела адстойвае перад кіраўніцтвам сваю думку", — дадаў да папярэдніх характарыстык мой шэф.

Мая кар'ера працягваецца.

**Барыс Воўк**



З „Весніка Задрыпоніі"

### НОВЫ РЭКОРД

Рэкорд вярблюда, які можа абыходзіцца без вадкасці 30 дзён, значна перакрочыў М. Пляшкін. Знаходзячыся на лячэнні, ён не піў больш двух месяцаў.

### ПЫТАННЕ ГАПКІ

Што рабіць чалавеку, які нарадзіўся паміж знакамі Задыяка?



**Абверг закон захавання энергіі — стварыў многа шуму з нічога.**

## НІЎКА



### ПАЦЯГНЕ

Дырэктар робіць заўвагу гаспадарчаму кіраўніку:

— Я ж вас прасіў, каб вы на месца кладаўшчыка падшукалі чалавека з сярэдняй адукацыяй, а вы прапануеце з трыма класамі... На гэтым месцы ён не пацягне.

— Не хвалюйцеся, — запэўніў гаспадарчы кіраўнік, — гэта такі чалавек, што на любым месцы пацягне...

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Суддзя: — Абвінавачаны, вы здзейснілі шэсць аграбленняў за тыдзень!

Абвінавачаны: — Так, ваша чэсць. Калі б усе працавалі так старанна, як я, наша краіна была б на шляху да поўнага росквіту.

*

Англічанін частуе сігарай у цягніку шатландца і просіць даць яму прыкурыць.

— Я адразу зразумеў, — сказаў шатландзец, — што вы пачаставалі мяне сігарай небескарыслівa.

*

Лорд свайму слузе:

— Сміт, прынясіце мне бінокль, я еду на пахаванне.

— А навошта вам бінокль, сэр?

— У мяне памёр дальні сваяк.

### ЦІ ДОМА ІВАН?

Пытае сусед у суседкі:

— Твой Іван дома?

— Не, няма, а навошта ён табе?

— Ды я ў яго грошы пазычаў, дык вось прыйшоў аддаць.

— Ну, дык пачакай, я яго зараз паклічу...

*А я хварэю за марсіян!*

### ПРЫВАТНАЯ РАЗМОВА

У час спектакля дзве жанчыны, якія сядзелі спераду мужчыны, бесперапынна балбаталі. Той не вытрымаў і злосна сказаў:

— Прабачце, даражэнькія, але мне нічога не чуваць.

— А вам і не патрэбна чуць, — павярнулася да яго адна з жанчын. — Гэта наша прыватная размова.

### ПАВАГА НААДВАРОТ

Да прылаўка, расштурхваючы жанчын, прабіраецца дзядзька.

— Грамадзянін, чаму вы без чаргі? — пытае адна з жанчын.

— Дык я ж мужчына, — адказвае той.

— То наадварот — трэба паважаць жанчын.

— А я і паважаю наадварот, — кажа дзядзька.



— *Гэты тып пазіраў на цябе яшчэ ў аэрапорце.*

### КОЛЬКІ ТАМ ЗБІРАЦЦА

На працы размаўляюць дзве жанчыны. Адна з іх паглядзела на гадзіннік і ўскліпнула:

— Ой, ужо ж палавіна чацвертай!.. Трэба хутчэй збірацца ды ісці дадому!

— Ды паспеем, колькі там збірацца!.. Толькі ўстаць, затуліць рот і ўжо можна ісці!..

## МІНІВЕРШЫ

### ЖАРТ

Параўноўваем дзяўчыну
Мы з чырвонаю малінай.
Ну, а жонку? Ну, а жонка,
Як рабінавая гронка.

### СІТУАЦЫЯ НЕ ТАЯ

„Чаму ж са мной
Не прывітаўся?" —
У вучня Ніл Кузьміч
спытаўся.
Пачуў настаўнік у адказ:
„Дык вы ж не вучыце
у нас!"

### ІЛЖЭВУЧОНЫ

Запас мізэрны ведаў меў,
Але лічыўся ён вялікім,
Бо прамаўчаць, дзе трэба, умеў
І паспрачацца мог з разлікам.

**Б. Мароз**







### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Івана Кірызюка змяшчаем савецкую песню*

## ЧЕРЕЗ ДВЕ ЗИМЫ

Слова **М. Пляцковского**
Музыка **В. Шаинского**

Письма нежные очень мне нужны.
Я их выучу наизусть.
Через две зимы, через две весны
Отслужу, как надо, и вернусь.
Припев:
Через две, через две зимы,
Через две, через две весны
Отслужу, отслужу, как надо,
и вернусь.

Запомни!
Веток шорохи за окном слышны
В полдень ветреный голубой.
Разве две зимы, разве две весны
Разлучить сумеют нас с тобой?
Припев:
Разве две, разве две зимы,
Разве две, разве две весны
Разлучить, разлучить сумеют нас
с тобой?

Подумай!
Мне солдатские снятся ночью сны,
А свидание — впереди.
Только две зимы, только две весны
Ты в кино с другими не ходи.
Припев:
Только две, только две зимы,
Только две, только две весны
Ты в кино, ты в кино с другими
не ходи!

Всего лишь!
Письма нежные очень мне нужны.
Я их выучу наизусть.
Через две зимы, через две весны
Отслужу, как надо, и вернусь.
Запомни!

## КУР'ЁЗЫ

### ЖАБЫ СМЯЮЦЦА

У Швейцарыі прыкладна чатырыста музеяў. Дакладных даных няма, таму што кожны год узнікаюць новыя міні-экспазіцыі. Адным з кур'ёзнейшых лічыцца жабі музей у горадзе Эставайеле-Лак, створаны капітанам Франсуа Пер'е ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. З незвыклым майстэрствам Пер'е прэпараваў жаб, напаўняў іх цела пяском і пакрываў бясколерным лакам. І ствараў пры дапамозе земнаводных жанравыя карцінкі, карыкатуры на сучаснае яму грамадства. Як на гэтай фатаграфіі, якая адлюстроўвае суддзю і яго пісара.



### ПРАФЕСІЯНАЛЫ ПАСАРОМЛЕНЫ

У адным з банкаў Каліфорніі апаратар ЭВМ на працягу пяці гадоў рэгулярна пераходзіў з рахункаў укладчыкаў на свой асабісты па некалькі цэнтаў. Калі гэта высветлілася, ён ужо „назбіраў" такім чынам 100 тысяч долараў. Такія выпадкі, пішa штотыднёвік „Ньюсуік", сталі ў ЗША звычайнай з'явай. Штогадовыя страты ад крадзяжоў з дапамогай ЭВМ складаюць, паводле ацэнак спецыялістаў, не менш як 100 мільёнаў долараў, што значна перавышае кошт здабычы прафесіянальных зладзеяў і грабежнікаў.




**Эканомце электраэнергію! Калі ў любай ззяюць вочы, тушыце святло!**